# Так па-рознаму

*Ні для каго не сакрэт, што дзеці найбольш падрастаюць летам. Нават самыя блізкія напрыканцы лета дзівяцца: «Як жа ж ты вырас за лета!», «Якая ж ты ўжо вялікая ў нас стала!». Нібы хтосьці палівау нас улетку нейкай асаблівай вадой, а мы і раслі, раслі, раслі...*

— Я ўжо так вырас, — казаў хлапец Мірон сваім сябрам Вадзіку і Міколку, якія на тры гады малодшыя за яго, — што мне зусім не да твару цяпер гуляць з вамі, малымі. Разумееце?

— Н-не... — ледзьве не разрумзаўся Вадзік.

А чаму тады наш тата, трэнер, возіцца ўвесь час з дзецьмі? — запытаў Міколка. — Ён жа ў нас 1 метр і 88 сантыметраў...






Натальцы ўвесь час вельмі хочацца адгадаваць доўгія пазногці, каб потым іх прыгожа, рознымі ўзорамі расфарбоўваць. А яны не адрастаюць — хоць плач! Яны ўвесь час абламваюцца. Мама супакойвае дачку:

— Вось калі ты будзеш дарослай...

— Я ўжо дарослая! Амаль... — злуецца Наталька і ад крыўды пачынае грызці пазногці.



# падраслі!




Брат і сястра Янка з Аленкай наведалі адзінокую бабулю з іхняга пад’езда і запыталі, што ёй можа трэба прынесці з крамы.

Бабулька ўздыхнула:

— Можа вам ужо надакучыла клапаціцца пра мяне? Вунь якія вы вялікія сталі за лета!

— Дык і што? — засмяялася Аленка. — Гэта ж добра, што мы падужэлі — цяпер шмат чаго зможам вам за адзін раз прыносіць!

— Ага! А Аленка нават навучылася ўжо падлогу мыць і лужын пасля сябе не пакідаць, — радасна падхапіў Янка.




— Ты не перажывай, мама, што крызіс на двары, — супакойвае Кацярынка сваю маму, — я ж ужо вялікая — мне снікерсы ды твіксы цяпер не абавязкова купляць. Падумала і ціхенька так дадала: — Ну, калі толькі зрэдку...

*Малюнкі Ульяны Хаданёнак, 10 гадоў.*

*Мы падраслі за летнія канікулы.*
*Так па-рознаму...*

Маленькі рыцар Беззаганнай


*«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 3 (69)/2015 г.*
*Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ.*
*220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.*
*Касцёльны кансультант — кс. Дзмітрый Пухальскі, рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,*
*мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп’ютарная вёрстка — Алег Глекаў.*
***Адрас для лістоў:** а/с 101, 220002 г. Мінск-2; **e-mail:** m.rycar@yandex.by*
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 3 500 экз. Заказ № 6322.
Падпісана да друку 06.10.2015 г. Надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня»
ЛП 02330/0494165 ад 03.04.2009 г., вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4. 210015, г. Віцебск.

# Лепш не трапляць у балота!



## *Урокі айца Віталія*

Нарэшце гэта сталася – бацькі падаравалі Жэньку новы тэлефон! Гэта быў не проста тэлефон, а сучасны смартфон з камерай, інтэрнэтам, вялікім экранам і рознымі моднымі штучкамі. Жэнькавай радасці не было межаў! Вядома ж, яму закарцела пахваліцца сваім набыткам перад сябрамі, і ён адразу патэлефанаваў Сяргею ды іншым сябрукам. Яны дамовіліся сустрэцца ў двары каля дома.

— Ну, Жэнька, дай паглядзець, што ў цябе за тэлефон, — яшчэ здаля гукнуў замест прывітання Сяргей.

Яўген асцярожна працягнуў сябру тэлефон, а Сяргей, беручы яго ў рукі, зрабіў рэзкі рух, быццам не ўтрымаў яго. Жэнька ажно войкнуў. Сябры заліліся рогатам, і нават Жэнька ўсміхнуўся, бо зразумеў, што гэта быў такі жарт. Пачаліся доўгія агледзіны новага смартфона. Хлопцы корпаліся ў розных праграмах, параўноўвалі тэхнічныя дадзеныя.

I
Не май іншых багоў, апроч Мяне

II
Не ўжывай імя Пана Бога твайго дарэмна

III
Памятай дзень святы святкаваць

IV
Шануй бацьку свайго і маці сваю

VI
Не забівай



Раптам Сяргей адвярнуўся ад сяброў і пачаў нешта набіраць, а калі павярнуўся, то з хітрай усмешкай паказаў хлопцам, што знайшоў у інтэрнэце. Гэта былі вельмі непрыстойныя здымкі. Жэнька зачырванеўся, як рак, але не пажадаў, каб яго палічылі за зусім недасведчанага. Таму перасіліў сябе, і яны ўсе разам доўга разглядвалі тыя брыдкія здымкі, шукалі новыя. Потым Яўген забраў свой падарунак і пабег дадому, але і дома яму нібы штосьці муляла. Ён зноў і зноў пераглядаў тыя здымкі, хоць і адчуваў, што гэта нядобра, непрыстойна. Калі б маці ўбачыла... Жэнька ажно азірнуўся на дзверы. Яны былі зачыненыя, і ён з палёгкай уздыхнуў.

Назаўтра была нядзеля і трэба было ісці ў касцёл. Праўда, штосьці нібы трымала Жэньку на гэты раз... Ён узгадаў, што рабіў учора, і яму стала зусім агідна. Хлопчык адчуваў сябе так, нібы перапэцкаўся ў нейкім балоце. Як жа ён такі стане перад Езусам ды яшчэ будзе прыслужваць пры алтары? Яўген быў міністрантам. Таму перад святой Імшой ён папрасіўся ў ксяндза на споведзь і шчыра ўсё расказаў. Ксёндз Віктар пахваліў Яўгена за тое, што той не адцягваў са споведзю, што шчыра вызнаў перад Богам свой грэх.

Пасля споведзі Яўген з лёгкім сэрцам пабег пераапранацца ў комжу, бо адчуў, як знікла тое балота з яго душы і ён мог цяпер чысты стаць перад Езусам. Яму нават здалося, што Езус усміхаецца, гледзячы на яго. І яшчэ ён зразумеў, што выбрудзіцца вельмі лёгка, а вось адмыцца ад бруду бывае цяжка. Таму лепш не трапляць у балота!

*Айцец Віталій Даніловіч, марыянін.*

X
**Не пажадай нічога, што належыць бліжняму твайму**

IX
**Не пажадай жонкі бліжняга твайго**

VIII
**Не сведчы фальшыва супраць бліжняга твайго**

VI
**Не чужалож**

VII
**Не крадзі**

**Бруно Ферэра**

# Святло ў вакне

У адным горадзе нечакана запанавала эпідэмія. Яна пачалася з прастуды. Людзі спачатку чыхалі, потым твары іх станавіліся шэрымі, і хворыя рабіліся раптам хціўымі, потым нахабнымі, агрэсіўнымі і нарэшце — злодзеямі. Думка пра грошы атакавала іх і адганяла ўсе іншыя думкі.

«Галоўнае ў жыцці — грошы. Дзякуючы ім можна зрабіць што заўгодна», — па такім правіле яны цяпер жылі.

Разам з думкай пра грошы з’явіўся таксама страх. Спатрэбіліся жалезныя дзверы, замкі і сейфы. У некаторых памяшканнях было па васямнаццаць замкоў.

Таты і мамы кралі грошы са скарбонак дзяцей. Дзеці ж толькі пыталіся: «Колькі ты мне заплаціш за мыццё посуду і прыборку?». Дзеці з першага класа вучыліся ствараць банкаўскія чэкі. Аптэкар спрабаваў раздаваць кніжкі, у якіх гаварылася пра лячэнне ад гэтай хваробы, але яны ківалі галовамі і распрадавалі кніжкі па старонках.

Аднойчы ў суботу па абедзе на галоўнай вуліцы мястэчка выбухнула бойка за манету вартасцю ў два грошы. Нават лекар заразіўся і пачаў прадаваць пратэрмінаваныя лекі, якія раней выкідваў на сметнік.



Хворыя мелі суровы выгляд. Яны рабілі нешчаслівымі тых, хто з імі жыве. Яны размаўлялі толькі пра грошы, працэнты і акцыі, якія здабывалі, каб потым страціць іх. Ніхто не хацеў плаціць падаткаў. Бурмістр і яго дарадцы пастанавілі шукаць параду ў знакамітага Барбадора, які быў пенсіянерам і чараўнікам адначасова.

**Вірус «вылапаюнцыпар»**

Пенсіянер выслухаў іх, пагладжваючы сваю доўгую бараду, і сказаў:

— Хвароба, якая апанавала горад, выклікана вірусам «вылапаюнцыпарам». Гэта страшны вірус. Каго ён закране, той становіцца нячулы, яго сэрца робіцца цвёрдым як камень, а замест мозгу з'яўляецца лічыдла. Ад гэтай заразы адзін паратунак — добрыя ўчынкі. Але каб цалкам знішчыць хваробу, патрэбна вада са Спяваючай Гары. Вам трэба знайсці моцнага, адважнага мужчыну, які зусім не цікавіцца грашыма. Ён павінен выканаць гэта заданне толькі з адной любові да людзей.

Але вада высакародства дзейнічае толькі тады, калі яе вельмі чакаюць і прагнуць. Таму мала знайсці аднаго героя, важна, каб вы самі прагнулі гэтай вады.

— Мы будзем чакаць. Усе! — прысягнулі бурмістр з дарадцамі.

— Мы павінны зноў зрабіць шчаслівым наш горад і збавіць яго ад эпідэміі, — дадаў чалавек, адказны за фінансы, які таксама меў шэрую скуру.

На наступны дзень на ўсіх гарадскіх сценах вісела аб'ява: «Шукаем адважнага юнака для гераічнага паходу». Такіх знайшлося 2 тысячы. Але калі тыя волаты даведаліся, што нічога не заробяць, то адмовіліся, за выключэннем аднаго — Хасэ. Гэта быў моцны, прыгожы хлопец. Яму патлумачылі, што трэба рабіць.

— Я знайду Святую Гару, — сказаў Хасэ.

— Мы будзем цябе чакаць і кожны дзень будзем выстаўляць агеньчык у вокнах. І ты будзеш бачыць, што мы цябе чакаем, — паабяцалі яму гараджане.

Хасэ паклаў у заплечнік бялізну, хлеб, сыр, пацалаваў маці і бацьку, прытуліў да сябе Марыю Ружу, сваю нарачоную, якая прашаптала: «Я буду цябе чакаць!». Ён развітаўся з усімі і рушыў у дарогу.

**Велікан Дзьмухач**

Тры дні Хасэ рашуча крочыў да гор, якія былі бачны на блакітным даляглядзе. Але і праз дзесяць дзён горы здаваліся такімі ж далёкімі. Хасэ ўвесь час думаў пра жыхароў горада, якія яго чакалі, пра сваіх бацькоў, пра Марыю Ружу.

Міналі тыдні, месяцы...



У горадзе ў першую ноч ва ўсіх вокнах былі запаленыя агеньчыкі. Людзі чакалі вады, якая зможа іх ацаліць. Але з часам шмат ліхтарыкаў пагасла. Некаторыя забыліся пра іх, іншыя, хварэючы, загасілі іх з ашчаднасці. Многія ківалі галовамі і казалі: «Не ўдалося яму, ён не вернецца».

Але Хасэ ўсё ж дабраўся да гор. Першымі былі малыя ўзгоркі, аддзеленыя шырокімі і дзівоснымі далінамі. Потым горы станавіліся больш суровымі, скалістымі. Хасэ прыслухоўваўся, ці не пачуе ён Спяваючую Гару. Некаторыя горы блішчэлі на сонцы, на некаторых булькалі струменьчыкі вады, але ніводная гара не спявала.

У маленькім шалашыку ён сустрэў старога пастуха. Той пачаставаў яго місачкай свежага малака і сказаў:

— Спяваючая Гара? Та-ак. Я ведаю, дзе яна знаходзіцца. Яна не дае мне спаць, калі я прыводжу свой статак на выпас. Яна стром-



кая і гладкая. Яе ахоўвае Велікан Дзьмухач.

— Хто гэта?

— Гэта велікан, які забаўляецца тым, што дзьме на ўсіх, хто захоча ўзысці на гару.

Пастух правёў яго да падножжа гары і сказаў: «Жадаю табе шчасця!».

Гара весела спявала, хоць і не вызначалася дасканалым слыхам.

На гары было шмат ступеняў, выступаў. Хасэ параніў рукі аб скалу. Ён ужо напалову ўскараскаўся, але моцны подых ветру адарваў яго ад скалы і адкінуў уніз. Калі ён падаў, пачуў смех гіганта Дзьмухача, задаволенага сваім жартам. Але Хасэ не разгубіўся. Ён напоўніў кішэні каменьчыкамі і зноў пачаў пераход. Кожны метр каштаваў яму вялікага высілку. Дзьмухач не здолеў скінуць яго з гары. Потым ён пачаў кашляць і перастаў дзьмуць.

Калі Хасэ ўзабраўся на вяршыню, ён убачыў крыніцу крыштальнай вады. Гара заспявала «аллелюя!» на чатыры галасы.

**Усё дарэмна?**

Хасэ вяртаўся дахаты радасным — ён выканаў ускладзеную на яго місію! Жыхары горада зноў будуць шчаслівымі. На плячах ён нёс бутэлькі з цудадзейнай вадой.

Цёмнай ночу ён дабраўся да ўзгор’я, з якога быў бачны горад. Апошні кіламетр ён бег. Але тое, што ён убачыў, напоўніла яго вочы слязьмі, а сэрца горыччу. Горад увесь быў у цемры. Не было бачна ніводнага агеньчыка.

«Усё дарэмна!» — горка падумаў Хасэ.

Ён ужо хацеў выліць ваду, якая каштавала яму столькі высілкаў, але раптам заўважыў адзін агеньчык сярод чорных муроў.

Хтосьці яго чакаў! Хасэ пабег на гэты агеньчык.

Ён пазнаў дом і вакно. У глыбіні сэрца ён на гэта і спадзяваўся.

Хасэ пагрукаў у вакенца: «Марыя Ружа!»

Маладыя абняліся.

**— Я заўсёды цябе чакала! — ціха сказала Марыя Ружа.**

*Пераклад Элы Дзвінскай.*

*Мастак — Вольга Чарняўская.*




# ПЕРШЫ РАЗ У ПЕРШЫ КЛАС!

У мінскай гімназіі № 23, як і ва ўсіх школах нашай краіны, першы званок прагучаў 31 жніўня. Упершыню яго пачулі 50 хлопчыкаў і дзяўчынак, якія сёлета распачалі сваё школьнае жыццё. Адна з іх — шасцігадовая Рагнеда Адэля Гацак, дапытлівая дзяўчынка, якая да таго ж яшчэ і выдатна малюе. Усё лета яна нецярпліва чакала 1 верасня, і вось яно прыйшло.

Дарэчы, 23-я гімназія знакамітая не толькі тым, што ўсе прадметы ў ёй выкладаюцца па-беларуску, але і тым, што тут дзеці з першага класа вывучаюць яшчэ і... кітайскую мову! Ці вельмі гэта цяжка — пакажа час.

А Рагнеда Адэля яшчэ ў дадатак вучыцца ў нядзельнай школе ў парафіі святых Сымона і Алены, у Чырвоным касцёле. Яна ўжо вучылася ў нядзельнай школе два мінулыя гады, цяпер жа распачалася непасрэдная падрыхтоўка да Першай святой Камуніі, а гэта вельмі адказна.



Пакуль Рагнеда Адэля робіць свае першыя крокі ў 23-й гімназіі і ў нядзельнай школе, да дзіцячага садку рыхтуецца яе малодшы амаль трохгадовы брат — Францішак Торвальд.

Пажадаем сястры і брату поспехаў і Божага благаслаўлення ў іх навучанні!

*Максім Гацак*



# Вышыванка з куфра



Усе мы ведаем, якім модным, папулярным сярод моладзі і дзяцей стала цяпер вышыванае адзенне. Часта можна пачуць, напрыклад, на якім-небудзь фэсце: «О, якая прыгожая на табе вышыванка! Дзе набыў?». Адзенне з беларускім арнаментам купляюць у крамах, на базарах, праз інтэрнэт.

У хлопчыка Янкі Грамыкі таксама ёсць вельмі прыгожая вышыванка. Але яна не купленая дзесьці цяпер. Яе дастала ягоная бабуля Наталля... са свайго куфра!

У куфрах нашы бабулі складвалі прыгожае адзенне, посцілкі, рушнікі, абрусы. Усё гэта зазвычай было зроблена сваімі рукамі, і таму было вельмі дарагое для сям'і і перадавалася з пакалення ў пакаленне.



Янку дасталася вышыванка ад ягонага дзядулі. Калі дзядуля быў маленькі, яму набыла яе ягоная маці альбо бабуля. Таму Янка можа па-сапраўднаму ганарыцца, маючы такі скарб! І няхай ён захоўваецца яшчэ і надалей, для наступных пакаленняў.

А ў вас, дзеці, таксама, можа, ёсць рэчы, якія засталіся ў вашых сем'ях ад бабуляў і дзядуляў? Напішыце, дашліце здымкі, раскажыце пра гэта ўсім. Гэта ж вельмі цікава!

*Аленка-майстрыха*

# НАШ СВЕТ ПРЫРОДЫ



Ева Пілько нарадзілася вясной, у сакавіку — адразу ў прыгожы, расквечаны зяленінаю свет. Можа таму, яна вельмі любіць кветкі. Яе тата Сяргей — праваслаўны, а маці Наталля — каталічка. Бацькі вырашылі, што іх дзеці будуць каталікамі, і 5 ліпеня 2014 года ў мінскім архікатэдральным касцёле Еву ахрысціў ксёндз Кірыл Бардонаў.



# І мы ў гэтым свеце



Апрача кветак, дзяўчынка вельмі любіць коцікаў і сабачак, і ўвогуле ўсё жывое. А нядаўна, 7 ліпеня, у яе нарадзіўся брацік — Мікітка, і Ева ўжо дае яму нюхаць кветкі, каб ён хутчэй далучаўся да рознакаляровага, духмянага свету прыроды.



Фота Сяргея Пілько.



# Сігнал

Адзін чалавек трапіў пасля караблекрушэння на пустынны востраў. Ён увесь час маліўся, каб Бог выратаваў яго, але дапамога не прыходзіла. Нарэшце ён збудаваў сабе шалаш з дошак, што засталіся ад карабля. Бо як інакш абараніцца ад дажджу і звяроў?

Але аднойчы, вярнуўшыся на бераг пасля пошукаў ежы, ён убачыў, што ягоны шалаш ахоплены полымем агню: слуп дыму падымаўся да неба. Самае горшае, што разам з шалашом згарэў і ўвесь ягоны няхітры скарб.

Чалавек не мог больш стрымліваць свайго адчаю.

— Божа, што Ты са мной робіш? — горка плакаў ён.

Змучаны, ён заснуў на голай зямлі. Але неўзабаве яго разбудзіў гудок — да вострава плыў карабель!..

— Як вы даведаліся пра мяне? — пытаўся чалавек потым у матросаў.

— Мы ўбачылі дымавы сігнал, — адказалі яны.

Памятай, чалавеча: калі твой шалашык раптам згарыць дашчэнту, то, можа, твая бяда ператворыцца ў дымавы сігнал, на які Пан Бог адкажа сваёй міласцю.

*З кнігі 100 хрысціянскіх прыпавесцяў «Аднойчы...», — Масква: Трыяда, 2012.*














# ПЕРАМОЖЦА «АПЕЛЬСІНАВАЙ БЯРОЗЫ»

Другакласнік Цімафей Буланаў з Гродна вучыцца ў спартыўным класе, а гэта, самі разумееце, і часу, і сілаў вельмі шмат забірае. Ён да таго ж яшчэ вельмі любіць плаваць і займаецца ў секцыі па плаванні.




Але ёсць у хлопчыка яшчэ адно вельмі цікавае захапленне: ён наведвае мадэльнае агенцтва «*Dolce Vita*». Хлопчыку разам з іншымі сябрамі агенцтва часта даводзіцца браць удзел у самых розных дэманстрацыях новых модных калекцый. Напрыклад, ён з сябрамі дэманстраваў калекцыю мадэльера Марыны Курбатавай на міжнародным праекце сучаснага мастацтва і крэатыўнай творчасці «Апельсінавая бяроза» ў Оршы. Іх калекцыя была найлепшаю!

Падабаецца Цімафею і дэманстраваць вырабы з воўны, якія па-майстэрску стварае мастак Алена Вітко. Праўда ж, цудоўныя вырабы?

*Алесь Гарадзенец*







# Эх вы, коні, коні!..



Палачанка Аленка Быхавец вельмі любіць коней. Дзе ні ўбачыць іх, яны быццам магнітам прыцягваюць дзяўчынку. Яна любіць глядзець спаборніцтвы па конным спорце, любіць назіраць, як коні працуюць на зямлі і дапамагаюць людзям, выконваючы цяжкую працу. Ну а на поні дык і пакатацца ж часам можна!

Ёсць у Аленкі мара: калі вырасце, яна хоча стаць ветэрынарам, бо вядома ж, што коні, як і людзі, могуць хварэць. І тады на дапамогу ім прыходзяць добрыя дактары, якія і дыягназ вызначаць, і патрэбныя лекі выпішуць, і прасочаць, каб чатырохногі пацыент вылечыўся ды вярнуўся да сваіх заняткаў.

З самага ранняга дзяцінства любімыя цацкі ў Аленкі — таксама коні. Але цацачныя могуць быць і рознакаляровымі — белымі, ружовымі, зялёнымі... Словам, з імі, коньмі, не засумуеш!

*І.Студзеньская*



# ПАД ЦІХІ ПОШУМ ЛІСЦЯ

Калі ападзе ўжо ўся лістота з дрэваў, яшчэ больш пакарацеюць дні і даўжэйшымі зробяцца ночы, мы прыходзім 2 лістапада, у Дзень Задушны, на могілкі. 1 лістапада мы адзначаем урачыстасць Усіх Святых, якія радуюцца ў Нябесным Валадарстве і заступаюцца за нас перад Панам Богам. На наступны ж дзень успамінаем усіх памерлых.

Папярэдне мы разам з бацькамі прыбіралі магілы нашых родных і блізкіх. Добра было б, калі б кожны з нас прыбраў яшчэ і хоць бы адну занядбаную магілу, на якую ўжо даўно ніхто не прыходзіць. Такое бывае. Прыбраць і памаліцца за невядомага нам чалавека – гэта таксама вельмі годны і прыгожы ўчынак. Спяшаемся ж іх рабіць!

Дзесьці ў гэтыя дні будуць працэсіі. Людзі будуць маліцца за памерлых святароў, за ахвяраў войнаў і катастрофаў, за ўсіх, хто памёр раптоўнай смерцю, за тых, хто загінуў удалечыні ад Радзімы і чые магілы невядомыя. А дзесьці людзі проста паасобку запаляць знічы,



прынясуць восеньскія хрызантэмы і будуць успамінаць тых, хто жыў у свой час на нашай зямлі, а цяпер знаходзіцца ў вечнасці.

Магчыма, хтосьці перажывае нядаўнюю страту блізкага чалавека і яму вельмі адзінока, балюча ў гэты дзень. Можа, варта падысці да яго і проста пабыць, памаўчаць разам... А можа, варта паслухаць, бо раптам гэтаму чалавеку вельмі трэба выгаварыцца каму-небудзь... Падыдзі... Не адкладвай.

Увогуле ж, гэта не сумны дзень. Проста ён ціхі, з мноствам святла, што ліецца са свечак ды знічоў і ўвасабляе святло Хрыста. Не сумны, бо мы, вернікі, ведаем, што пасля зямнога жыцця нас чакае вечнае, радаснае прабыванне з Богам і ўсімі святымі ў Нябесным Валадарстве.

*Ірэна Задарожная*





# САМАЯ ВАЖНАЯ СУСТРЭЧА

Пачатак публікацыі ў № 1 (55) за 2012 год.

## *Святая Камунія*

**Гэта той хлеб, які сышоў з неба...**
**Хто спажывае гэты хлеб,**
**будзе жыць навекі.**

Ян 6, 58



Калі мы прымаем Камунію, то яднаемся з самім Езусам.

Святар падае Гостыю са словамі:

— Цела Хрыста!..

Мы адказваем:

— Амэн.





Калі ты не гатовы па нейкіх прычынах прыняць святую Камунію, то трэба абавязкова паказаць знакам, што ты хочаш атрымаць благаслаўленне.

Пасля святой Камуніі мы вяртаемся на сваё месца і нейкі час у малітве ціха размаўляем з Панам Езусам.





# Гульні Загадкі



## ЗАГАДКІ З БІБЛІІ

Сябры! Мае загадкі на гэты раз прысвечаныя непрыкметным героям Біблii, якія, тым не менш, нясуць вельмі адказную і надзвычай разнастайную службу дзеля Бога і людзей. Мае пытанні не ахопліваюць усю гэтую разнастайнасць, таму вы можаце яе дапоўніць малюнкамі, сваімі загадкамі, вершамі, расказамі. А на мае пытанні ўсё ж адкажыце. Чакаю вашых лістоў!

- Хто з'явіўся Захарыю ў той час, калі ён служыў Пану Богу? Што сказаў? (Лк 1, 11-13).
- У кнізе якога прарока Старога Запавету напісана: «Вось пасылаю анёла Майго перад абліччам Тваім, які падрыхтуе дарогу Табе» (Мк 1)?
- Знайдзі ў Евангеллі святога Лукі прыпавесць пра багацея і Лазара і адкажы, хто занёс жабрака да Абрагама?
- Якую ролю ў нараджэнні Езуса адыграў анёл Пана? Прачытай Мц 1, 18-25.
- Назаві імёны трох Арханёлаў і раскажы, як яны дапамагаюць людзям.
- Помнік якому Арханёлу ёсць у сталіцы нашай краіны? Дзе ён знаходзіцца?

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

## Галубка



*Калі вада, якая затапіла зямлю, стала спадаць, Ной выпусціў з каўчэга галубку. Увечары галубка вярнулася, несучы ў дзюбе зялёную галінку. І Ной зразумеў, што хутка можна будзе пакінуць каўчэг. Жыццё ўзнавілася!*

У пранумараваных квадратах напісаны літары. Алоўкам закрэслі квадраты, нумары якіх супадаюць з вынікам матэматычных прыкладаў. Калі праца будзе скончана, літары, якія застануцца ў квадратах, складуць слова і ты даведаешся, галінку якога дрэва прынесла галубка Ною.



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| С (1) | Д (2) | А (3) | А (4) | В (5) | Р (6) | Л (7) |
| Е (8) | Н (9) | І (10) | В (11) | Т (12) | З (13) | А (14) |
| | | | | | | Р (15) |

3 x 3 = ...
6 + 6 = ...
9 – 4 = ...
7 : 7 = ...
10 + 5 = ...

8 : 4 = ...
2 x 3 = ...
9 – 5 = ...
4 x 2 = ...
8 + 5 = ...



# Нашы памочнікі




Пан Бог, ствараючы свет, наказаў чалавеку гаспадарыць на зямлі. Таму здавён людзі і звяры жывуць побач.

Напішы, якіх хатніх жывёлаў ты бачыш на малюнку, і напішы, што кожная з іх дае чалавеку альбо як дапамагае яму.


1


4


8


10


2


5


6


11


3


7


9

Адказы на **Загадкі, змешчаныя ў № 2 за 2015 г.**

**«Загадкі з Бібліі»:** Уваскрасенне Хрыста, Унебаўшэсце Хрыста, Спасланне Духа Святога, Унебаўзяцце Насвяцейшай Панны Марыі, Укаранаванне Найсвяцейшай Панны Марыі; у Пяцідзясятніцу; Вячэрнік; каля трох тысяч чалавек; апостал Пётр; сем дароў Духа Святога — мудрасць, розум, рада, мужнасць, умеласць, пабожнасць, боязь Божая.

**Разгадка крыжаванкі:** у Будславе.

Узнагароды за правільныя адказы атрымаюць: **Аляксей Томкавіч** з Вілейкі і **Маргарыта Ясэпкіна** з Полацка. Віншуем пераможцаў!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*



# Чым дапамагчы?

Бежанцы... Усё часцей і часцей мы чуем гэтае сумнае слова. Бежанцы – ад слова «бегчы». Не ад лёгкага жыцця бягуць людзі. Часта яны прыхопліваюць у сваю няпростую і рызыкоўную, небяспечную дарогу толькі самае неабходнае. Іх хаты і ўсё нажытае застаюцца дзесьці там, дзе грыміць вайна, падаюць бомбы, рвуцца снарады. А яны кідаюцца ў свет у пошуках паратунку...

Чым мы можам дапамагчы гэтым людзям, сваім равеснікам, якія таксама сталі бежанцамі? Няма ў нас пакуль што іншага сродку для дапамогі, апроч шчырай малітвы. Але ж гэта вельмі моцны сродак! Сябры! Будзем жа дапамагаць ім штодня сваімі малітвамі, просьбамі да Пана Бога суцішыць разварушаны войнамі свет.

*Ойча Нябесны! Злітуйся над тымі, хто страціў на вайне сваіх родных, свой дом, хто вымушаны шукаць прытулку ў чужых краях! Просім Цябе за нашых равеснікаў — няхай яны разам з бацькамі знойдуць надзейнае месца для свайго жытла.*

*Маленькі рыцар Беззаганнай*
*і ўсе чытачы нашага часопіса.*







# Галерэйка

Сябры! Нагадваем, што наш конкурс «Радасны святы» працягваецца. Чакаем вашых працаў! Вынікі конкурсу будуць падведзены ў першым нумары часопіса ў 2016 годзе.




*"Ян Павел II".*
*Ульяна Грачанік, 8 гадоў,*
*в. Нарач, Мядзельскі р-н.*



*"З'яўленне анёла Захарыю".*
*Маргарыта Ясэпкіна,*
*г. Полацк.*



Аляксей Томкавіч з Вілейкі — надзейны сябра нашага часопіса. Ён не толькі рэгулярна чытае яго, але і заўсёды трапна адгадвае загадкі, удзельнічае ў конкурсах. Мінулым летам Аляксей з усёй сям'ёй удзельнічаў у пілігрымцы да Маці Божай Будслаўскай, а потым даслаў нам здымкі. Дзякуй!

Мы заўсёды рады атрымліваць ад вас лісты, паведамленні, здымкі, бо вы — нашы верныя сябры!

*Рэдакцыя*





*Малюнак Марыны Рудчык, 12 гадоў.*

У афармленні матэрыялаў нумара прымалі ўдзел юныя мастакі з ДУА «Гімназія-каледж мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка» (майстэрня Г. Хінкі-Янушкевіч).